

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№ 16 (145), ЛІСТАПАД 2012 ГОДА


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## АЛКАГОЛЬНАЯ НАВАЛА ПАВІННА БЫЦЬ СПЫНЕНА

**Алкагалізацыя насельніцтва дасягнула такіх памераў, што ўлады забілі трывогу і пайшлі на больш рашучыя меры ў барацьбе з п'янствам. У якасці эксперымента ў некаторых раёнах краіны быў абмежаваны продаж "чарніла" на два месяцы, а з 1 снежня Мінгарвыканкам вырашыў забараніць продаж пладова-ягадных напояў і ў сталіцы. Прэм'ер Міхаіл Мясніковіч абяцаў наогул спыніць вытворчасць ардынарных він з 1 студзеня 2013 года. Аднак ці паспрыяюць такія захады зніжэнню п'янства?**

Нагадаем, што сітуацыю спрабавалі змяніць яшчэ ў 2005 годзе, пасля прыняцця дэкрэта кіраўніка Беларусі ад 9 верасня № 11, які значна ўзмацніў жорсткасць патрабаванняў да ліцэнзавання вытворчасці алкагольнай прадукцыі і яе якасці. Адначасова была ўведзена забарона на імпарт пладовых вінаматэрыялаў, што прымусіла вытворцаў ствараць асабістыя магутнасці па перапрацоўцы мясцовай пладова-ягаднай сыравіны. Не вытрымаўшы новых умоў, шэраг прадпрыемстваў спыніў вытворчасць пладова-ягадных напояў.

Цяпер у краіне засталося 49 прадпрыемстваў па выпуску пладовых вінаў агульнай магутнасцю 235 млн. літраў у год. А ўдзельная вага спажывання гэтых вінаў на душу насельніцтва знізілася больш чым на 20% і склала 3,3 літра ў пераліку на бязводны спірт. Быццам бы пачыналася няздрэнна.

Аднак для татальнага спойвання краіны хапіла і гэтага дабра. Паводле рэйтынгу Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, Беларусь уваходзіць у дзесятку краін з найбольшым спажываннем спіртных напояў. Медыкі лічаць крытычнай сітуацыю, калі чалавек ужывае 8 літраў алкаголю ў год (сярэдні ўзровень выпітага алкаголю ў свеце – 6 літраў на чалавека) . А летась у краіне было прададзена 13,3 чыстага спірту на чалавека. З улікам немаўлят.

У Шумілінскім раёне за мінулы год прыпала больш як за 30 літраў гарэлкі на аднаго жыхара. У выніку на ўліку у нарколага стаіць 698 чалавек, штодзень медыкі змагаюцца з наступствамі празмернага ўжывання алкаголю: траўмамі, комай, псіхозамі і г. д. Восем чалавек скончылі жыццё самагубствам, 68% з гэтай колькасці былі незвярозымі.

На пасяджэні Савету міністраў прэм'ер Міхаіл Мясніковіч заявіў, што з 1 студзеня 2013 года вытворчасць пладова-ягаднага ардынарнага віна будзе спынена. Ардынарныя віны – гэта віны, якія вырабляюцца са зброджанага соку да 3%. То бок, гэта малая доля натуральнага наброду.

Што сёння ўяўляе сабой пладова-ягадны напой, які ў народзе называюць чарнілам? Вырабы падобнай алкагольнай прадукцыі – гэта разбаўлены спірт, кансерванты і фарбавальнікі. Танны сурагат наносіць непапраўную шкоду ўсяму арганізму, асабліва печані, пераптваральнікі... ютвараюцца... 

Танны сурагат наносіць непапраўную шкоду ўсяму арганізму, асабліва печані, пераптвараючы яе ў тлушчавую тканку, якая не спраўляецца са сваімі функцыямі. Гэта прамая дарога да гепатыту і цыррозу печані. Праўда, не ўсё пладова-ягадныя напоі ёсць "чарніла". Як тлумачыць дырэктар Талачынскага кансервавага завода Анатоль Анюхоўскі – калі ў саставе купажу ёсць толькі сок ягад і пладоў, з яго можна атрымаць да 10% алкаголю натуральнага набродy. Толькі пасля гэтага на заводзе дабаўляюць усяго 8% зерневага спірту. Выходзіць, што вытворцы мацаванага яблычнага напою не прызнаюць яго дрэнным, лічаць віном палепшанай якасці паводле спецтэхналогій. Дарэчы, прэм'ер Мясніковіч паведаміў, што вінная прадукцыя палепшанай якасці і марачныя віны на рынку ўсё ж застануцца.

Урачы-нарколагі мяркуюць, што забарона на "чарніла" праблему алкагалізацыі насельніцтва не вырашыць. Насамрэч самым небяспечным кампанетам усіх алкагольных напояў з'яўляецца этылавы спірт, менавіта той чысты спірт – моцны клетачны яд, ад якога хварэюць, атручваюцца і паміраюць. Таму з боку медыцыны больш карэктна казаць не аб шкоднасці на арганізм няякасных напояў, а танных. Менавіта нізкі кошт на адну дозу чыстага алкаголю робіць "чарніла" найбольш небяспечным.

І сапраўды, не толькі ў віне праблема. Залежнась ад гарэлкі нашмат болей сур'ёзная, чым ад віна. У яе і градус болей, і рызыка атручвання. Да таго ж гарэлка ў Беларусі дрэннай якасці. Наўрад ці забаронай аднаго віна адвучаць людзей піць.

Ці паспрыяюць захады ўладаў зніжэнню п'янства? Так, вінаробчая галіна зможа павысіць якасць прадукцыі нацыянальных алкагольных напояў і стварыць на рынку канкурэнтназдольны асартымент. А гэта, у сваю чаргу, будзе спрыяць зніжэнню спажывання моцных напояў. Але толькі пры ўмове дадатковых мераў па ўскладненні доступу да алкаголю, скарачэнню аб'ёму продажу і г. д. Працей было б спыніць вытворчасць, але тады паўстануць эканамічныя праблемы. Наўрад ці ўлады для гэтага гатовы.

**Аляксандр Шчамлёў.**

КРЫМІНАЛ

## Вытворчасць самагонкі паставіў на паток

**Шумілінская міліцыя ліквідавала яшчэ адзін ачаг самагонаварэння. Самагонны апарат, які займаў большую частку жылога дома, знойдзены ў адной з вёсак раёна. Каб яго дэмантаваць, супрацоўнікам міліцыі давялося разбіраць печ.**

Паводле паведамлення намесніка начальніка Шумілінскага РАУС Юрыя Арлова, у канцы кастрычніка ў міліцыю паступілі звесткі аб тым, што ў адной з аддаленых вёсак раёна, мясцовы жыхар займаецца вытворчасцю самагонкі. Для праверкі гэтай інфармацыі ў вёску выехала група ў складзе начальніка аддзялення аховы правапарадку капітана міліцыі Андрэя Казлова, інспектара міліцыі Сяргея Кузняцова, супрацоўнікаў крымінальнага вышуку маёра міліцыі Валерыя Талстога і маёра міліцыі Аляксея Іспянкова. Супрацоўнікаў РАУС здзівіў памер апарату, калі яны наўпрост ў жылым доме ўбачылі стацыянарна змантаваную ўстаноўку для вытворчасці самагонкі. Трубы самагоннага мінізавода працягнуліся амаль па ўсёй хаце, а сам апарат быў уманціраваны у рускую печ. Адпаведна і аб'ёмы вытворчасці былі унушальны: у гора-прадпрымальніка было канфіскавана 30 літраў саматужнага алкагольнага напою і 775 літраў самагоннай брагі. Акрамя гэтага, у 58 жыхара вёскі знойдзена незарэгістраваная паляўнічая стрэльба з патронамі.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## СПАСЫЛКІ НА ЦЯЖКАСЦІ НЕ ПРЫМАЮЦЦА

**Ужо другі раз у гэтым годзе раённыя чыноўнікі праводзяць падворны абход у Мікалаеўскім сельсавеце. Аднак да належнага парадку пакуль далёка як на вытворчых тэрыторыях, так і на прыватных дварах. Як высветлілася, гэта вынік недапрацовак некаторых адпаведных службаў і асобных кіраўнікоў.**

Вядома, што ў дзяржаве таксама створана адпаведная структура ўлады зверху – гэтак званая раённая "вертыкаль". А гэта азначае, што кожны кіраўнік нясе асабістую адказнасць за даручаны ўчастак работы.

У пастаянную практыку ўвайшлі аб'езды дэлегацыяй чыноўнікаў вытворчых і сацыяльных аб'ектаў, сустрэчы з грамадзянамі. На гэты раз прадстаўнікі раённай вертыкалі на чале з Уладзімірам Кураным агледзелі асноўныя аб'екты гаспадарання, размешчаныя на тэрыторыі сельсавета. У ходзе мерапрыемства кіраўнік раёна асноўны акцэнт засяродзіў на жорсткай крытыцы выяўленых недахопаў. Безумоўна, былі і дагледжаныя аб'екты, як напрыклад, Кардонская школа-сад. Прыемнае ўражанне ў візіцёраў пакінула прышкольная тэрыторыя, сам дагледжаны будынак школы.

Разам з тым пасля наведвання Мішкаўскай школы вертыкальшчыкі былі незадаволены тым бязладзем, якое панавала на тэрыторыі. Разрытая траншэя з цеплатрасай, парэзаная каляінамі зямля, старыя прыбіральні – усё гэта сведчыла аб незадавальняючай рабоце кіраўніцтва школы. Тым больш, што ўсе недапрацоўкі былі заўважаны паўгода таму, але для выпраўлення сітуацыі нічога не было зроблена. Ды і значныя сумы грошай на гэтыя грамадскія работы не патрабаваліся.

Яшчэ адно пытанне, якое зараз знаходзіцца ў полі зроку мясцовай улады, –стварэнне належных умоў для працы і адпачынку. На ферме Кардон камісія знайшла пакой адпачынку ў занядбаным стане – не зроблены рамонт, а ў душавой кабіны няма наогул. Дырэктару сельгаспадаркі "Ульскі" Ю. Савіцкаму быў дадзены месяц для выпраўлення сітуацыі.

Вывучэнне клопатаў і патрэб сельскіх працаўнікоў, выкананне іх – неад'емная частка работы ўлады. І тут, у глыбінцы, сацыяльна-грамадскае жыццё павінна будавацца ў цесным узаемадзеянні з усімі зацікаўленымі мясцовымі структурамі і службамі. Менавіта таму ў Кардонскім клубе на падвядзенне вынікаў рэйду сабраліся кіраўнікі тых рабочых груп, якія на месцах вырашалі надзённыя пытанні мясцовых жыхароў. У выніку выявілася, што з большага планавыя работы выконваліся. Аднак паранейшаму засталося шмат работы па рэканструкцыі і рамонту аб'ектаў гаспадарання. Да прыкладу, тэрміновы рамонт патрэбен дарогі да вёсак Ерашова і Лабейкі. Камунальная служба дагэтуль не справілася з рамонтам №2 у Мішкавічах, а жыхары засталіся без гарачай вады. На пасяджэнні былі заслуханы і абмеркаваны і іншыя пытанні камунальна-бытавога накірунку пастаўлены новыя задачы.

**Алесь Шумскі.**

КРАДЗЯЖЫ

## Напаіў сабутэльніка і скраў бялізну

19 лістапада ў Шумілінскі РАУС звярнуўся жыхар вёскі Рэпіншчына 1957 года нараджэння. Мужчына паведаміў аб тым, што пасля сумеснага распіцця спіртных напояў у доме па месцы жыхарства непрацуючы, раней судзімы за крадзяжы жыхар вёскі Кардон, 1987 года нараджэння, здзейсніў у яго крадзеж 4 млн. рублёў, пасцельнай бялізны і адзення. 20 лістапада ўзбуджана крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК.

## Зламалі сцяну хлява і скралі кансервы

17 лістапада ў Шумілінскі РАУС звярнулася рабочая 1979 года нараджэння, з заявай аб тым, што з 11 па 17 лістапада неўстаноўлены злачынца, праламаў сцяну, залез у яе хлеў, размешчаны каля дома па месцы жыхарства, і здзейсніў крадзеж кансерваваных прадуктаў харчавання. Нанесена шкода 900 тыс. рублёў. Работнікамі вышку папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейснілі браты – 1991 і 1989 года нараджэння. Супраць мужчын узбуджана крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК.

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***
- ***Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

АБ РАБОЦЕ ДЭПУТАТА

# Выслухаў звароты людзей, абяцаў дапамагчы

**Новапрызначаны дэпутат "Палаткі" Уладзімір Шыцько пачаў сваю дзейнасць у Шумілінскім раёне. 21 лістапада ў малой зале пасяджэння райвыканкама выбаршчыкі мелі магчымасць звярнуцца да дэпутата па асабістых пытаннях або пазваніць па тэлефоне на "прамую лінію". Большасць пытанняў, якія адрасавалі шумілінцы прадстаўніку прэзыдэнцкай вертыкалі, насілі прыватны характар і маглі быць вырашаны на пярвічным ўзроўні.**

На прыём да дэпутата жыхары раёна пачалі запісвацца амаль за тыдзень. Нагадаем: да сваіх абавязкаў прыступіў дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Шыцько Уладзімір Уладзіміравіч, нарадзіўся 20 жніўня 1954 года, дырэктар дзяржаўнай установы адукацыі "Віцебскае кадэцкае вучылішча", жыве ў вёсцы Лужасна Віцебскага раёна, беспартыйны. Што ж непасрэдна цікавіла на гэты раз шумілінцаў, якія пытанні яны адрасавалі прадстаўніку заканадаўчай галіны ўлады ў нашым рэгіёне?

Увогуле, як яшчэ з савецкіх часоў павялося на Шуміліншчыне, кіраўнікі ўсіх органаў улады кіруюцца правілам: "дробязных праблем не існуе". У гэтым можна было пераканацца пасля першага візіту жыхаркі райцэнтра Л. Шкулавай. Падвал перыядычна залівае вада, а камунальнікі яе толькі адкачваюць, але наладзіць ліўневую каналізацыю не спяшаюцца. Аднак хто кіруе работай камунальнай службы? Вядома, што непасрэдна УП ЖКГ падпарадкоўваецца райвыканкаму. Тем не менш, больш уплывовы вертыкальшчык Шыцько абяцаў даць даручэнні камунгасу. Як на апошнюю інстанцыю, спадзяваўся на дэпутата інвалід другой групы з вёскі Дабея Г. Філонаў. Мужчына быў упэўнены, што яму, як інваліду апорна-рухавога апарата дзяржава павінна прадаставіць аўтамабіль. Давялося тлумачыць, што такія льготы адменены яшчэ пяць гадоў таму, у 2007 годзе. Праўда, ёсць нейкая дапамога інвалідам па праездзе ў грамадскім транспарце. А вось набалелае пытанне грамадзянкі І. Ягоравай з Мазурына цалкам вырашальнае. Хаця і яно з катэгорыі "як нядбайныя работнікі абыякава адносяцца да сваіх абавязкаў, а кіраўнікі на гэта заплюшчваюць вочы". Справа ў тым, што жанчына не змагла дабрацца да могілак, дзе пхаваны яе блізкія родзічы – механізатары з мясцовай гаспадаркі перапахалі пад'езды. Уладзімір Шыцько паабяцаў разабрацца і давесці гэты абуральны факт да ведама дырэкцыі сельгаспрадпрыемства "Лаўжанскае". Калі нехта вінаваты, то ён павінен быць пакараны, а пад'езды да могілак прыведзены ў парадак.

Некалькі заяў выбаршчыкаў патрабуюць значных фінансавых укладанняў. Жыхары двухпавярховых дамоў, ад імя якіх звярнулася грамадзянка Т. Кухарэнка, занепакоены тым, што мясцовыя ўлады завалакіцілі праект газіфікацыі дамоў, якія яны павінны былі зрабіць за дзяржаўны кошт. Але ўсе выдаткі на правядзенне вулічнага газаправода дзяржава аплаціць не зможа. Як адзінае выйсце, дэпутат параіў жыхарам аб'яднацца ў кааператыў і заплаціць з уласных сродкаў каля 30% усіх выдаткаў на будаўніцтва газавай сеткі.

Увогуле, па прыкінцы года раённы бюджэт значна абмежаваны. І натуральна, выцягнуць больш глабальныя праблемы не ў стане. У пасёлку Обаль вось ужо працяглы час жыхары 4-5 паверхаў могуць карыстаюцца вадой толькі пасля 12 гадзін ночы. Між тым, работы па будаўніцтву новай свідравіны былі спынены па тэхнічных і фінансавых прычынах. Дадатковыя грошы нібыта знайшлі, аднак работа ідзе марудна. У гэтым выпадку, як заверыў дэпутат Шыцько, жыхарам пасёлка прыйдзецца крыху пачакаць, пакуль падачу вады давядуць да ладу.

Як бы там ні было, а сёння нароўні з пытаннямі рэгіянальнага характару, дэпутату часта даводзіцца займацца і прыватнымі, якія пры належным разглядзе цалкам вырашаюцца на мясцовым узроўні. Шчыра кажучы, пакуль што не ідуць нашы выбаршчыкі к прадстаўнікам заканадаўчай улады з канкрэтнымі прапановамі аб зменах у тых законах, якія павінны зарабіць наша жыццё больш заможным. Магчыма, калі небудзь выбаршчыкі зразумеюць, што яны самі і ёсць гаспадары жыцця ў прававой дзяржаве, а не скаржнікі на несправядлівыя адносіны да іх з боку мясцовых чыноўнікаў, камунальнікаў ці проста нядбайных суседзяў.

**Алесь Шумскі.**

ЧАЛАВЕК, СЯМ'Я, ГРАМАДСТВА

# ВА ЎЗМОЦНЕНЫМ РЭЖЫМЕ

**Напярэдадні зімы ўсе адпаведныя службы перайшлі на ўзмоцнены кантроль сем'яў, якія знаходзяцца ў так званай зоне рызыкі. Гэта шматдзетныя сем'і, сем'і, у якіх бацькі вядуць антысацыяльны лад жыцця, няпоўныя сем'і. Нягледзячы на вялікую работу, што праводзіцца шматлікімі зацікаўленымі службамі, неўладкаваных сем'яў і нядбайных бацькоў, на жаль, не становіцца менш.**

Работу з такімі ячэйкамі грамадства праводзілі рэйдавыя групы, у якія ўваходзілі адмыслоўцы ад медыкаў і педагогаў, да прадстаўнікоў райвыканкама і міліцыі.

Яны і адправіліся вывучаць сітуацыю. Ні адну з сем'яў, дзе над дзецьмі навісла пагроза, не абыйшлі ўвагай адказныя асобы. Праверкамі было ахоплена 84 сям'і, як у райцэнтры, так і ва ўсіх сельсаветах. Службовыя асобы працавалі па метаду комплекснага абследавання сем'яў. У першую чаргу правяралі санітарны стан у жылых памяшканнях і падрыхтоўку да зімы – рамонт печаў, электраабсталявання, запасы дроў.

Прынамсі, у некаторых сацыяльна небяспечных сем'ях гаспадары змяніліся ў лепшы бок, што жывуць у вёсках Крывое Сяло, Полькавічы, Навікі. Аднак пабачылі нямала і адмоўных прыкладаў. Грамадзянка Т. на працу не ўладкавалася, хаця і з'яўляецца абавязанай асобай, а яе дзіця знаходзіцца ў прытулку. Маладая маці схільная да злоўжывання спіртным, у доме холадна, бо пра запасы дроў на зіму не паклапаціліся. Па ўсяму відаць, на дзіця махнула рукой і забіраць яго да сабе не збіраецца. Яшчэ адна маладая жанчына з дзіцём не начавала дома. Або другая гісторыя з семнаццацігадовым падлеткам, які кінуў Ульскі прафесійны ліцэй, нідзе не вучыцца і не працуе. Як высветлілася, падобная сітуацыя назіраецца ў трох сем'ях, якія трапілі ў сацыяльна небяспечнае становішча.

Апошнія праверкі выявілі трывожныя лічбы: на 1 лістапада 2012 года ў сацыяльна небяспечным становішчы ў раёне знаходзіцца 226 дзяцей са 135 сямей. З гэтай колькасці –дзеці ва ўзросце да трох год. На сённяшні дзень на ўліку 116 абавязаных асоб. 87 асоб павінны кампенсаваць расходы на ўтрыманне дзяцей у дзяржаўных установах. У гэтым годзе бацькоўскіх правоў пазбаўлена 17 бацькоў у адносінах да 19 дзяцей.

Па-ранейшаму, у неўладкаванасці сем'яў адну з галоўных роляў "іграе" алкаголь. На ўліку ва ўрача-нарколага райбальніцы знаходзіцца 698 жыхароў раёна. А пераважная большасць гэтых людзей "выхоўваюць" непаўналетніх дзяцей. Відавочна, што праблема п'янства ў падкантрольных бацькоў так і не ссунулася з мёртвай кропкі. Частым візіцёрам з раённай управы яны найчасцей даюць толькі слёзныя абяцанні, "кадзіруцца", "падшываюцца", а потым зноў пачынаюць весці антысацыяльны лад жыцця.

Удзельнікі рэйду прынялі прапановы: сітуцыя ў восьмі сем'ях павінна быць разгледжана на пасяджэннях камісій па справах непаўналетніх. Шумілінскія чыноўнікі ўпэўнены, што толькі пастаянны кантроль за нядбайнымі сем'ямі можа даць станоўчы эфект. Але што б там не казалі адказныя службовыя асобы пра высокія заробкі, усё ж абавязаным асобам не хапае грошай, каб разлічыцца з дзяржавай за ўтрыманне дзяцей. Нават калі б яны і не пілі. Відаць справа не толькі ў гэтым.

**Алесь Прыбярэжны.**

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# ЦІ ВЫЛЕЗУЦЬ ШУМІЛІНЦЫ З ДЭМАГРАФІЧНАЙ ЯМЫ?

**За студзень-верасень 2012 года на Шуміліншчыне зафіксавана далейшае змяншэнне насельніцтва. Сітуацыя працягвае пагаршацца ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года.**

Аналіз дэмаграфічнай сітуацыі паказвае, што ў раёне назіраецца рост смяротнасці насельніцтва, а колькасць народжанных няўхільна скарачаецца. Так, паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта колькасць насельніцтва ў Шумілінскім раёне на 1 кастрычніка 2012 года саставіла 19 тысяч 40 чалавек. Перадусім, на 1 чэрвеня налічвалася 19 тысяч 186 чалавек. Гэта сведчыць аб тым, што ўсяго за тры месяцы колькасць жыхароў раёна зменшылася на 146 чалавек. Разам з тым паказчык смяротнасці застаецца высокім і амаль удвая перавышае нараджальнасць. Калі за студзень-верасень нарадзілася 164 чалавекі, то за гэты час памерлі 321 чалавек. Разам з тым растуць і паказчыкі адмоўнага натуральнага спаду насельніцтва. Так, за студзень-верасень 2011 года гэта лічба складала -145, а за адпаведны перыяд паказчык дайшоў да -157.

Усяго за студзень – кастрычнік нарадзілася 188 дзяцей (у мінулым годзе было 200).У кастрычніку пабраліся шлюбам 12 маладых пар. Тры справы аб скасаванні шлюбу разглядаліся ў судзе, прычым ініцыятарамі ўсіх разводаў выступілі жанчыны. Да таго ж 11 сямейным парам суд вызначыў тэрміны на прымірэнне.

Памерлі за верасень-кастрычнік 354 чалавекі, 23,2% з іх пайшлі з жыцця заўчасна – былі працаздольнагаўзросту. Сярод прычын смяротнасці пераваладваюць хваробы сістэмы кровазвароту – 131 чалавек, ад старасці памерлі 75 чалавек. Злаякасныя новаўтварэнні сталі прычынай смерці 51 чалавека, а на ўліку ў анколага стаіць 659 чалавек. 5 чалавек загінула на пажарах, яшчэ 5 – у выніку дарожна-транспартных здарэнняў, 8 патанулі, 8 скончылі жыццё самагубствам.

Дарэчы, асновай палітыкі цяперашняй улады з'яўляецца шырока разрэкламаваная імі стабільнасць. Аднак нездавальняючая дэмаграфічная сітуацыя і здароўе жыхароў раёна наўрад ці палепшыцца ад іх заклінанняў. Сярэднестатыстычнаму грамадзяніну раёна ўбілі ў галаву, што пад стабільнасцю разумеецца наяўнасць працы, невялікага, але пэўнага заробку. Нібыта гарантавалі адсутнасць палітычных скандалаў, упэўненасць у заўтрашнім дні, бо жыццё пры аўтарытарным рэжыме мяняцца не будзе. Насамрэч стабільнасць, прапанаваная ўладамі, не выглядае такою ўжо непарушнаю. Само жыццё паказвае стабільныя жыллёва-камунальныя праблемы, стабільны рост коштаў на тавары і паслугі, стабільнае паглыбленне праблемы алкагалізму, стабільны рост заўчаснай смяротнасці ад хваробаў і галечы. За апошнія 20 гадоў колькасцб насельніцтва Беларусі на 770 тысяч чалавек, або на 7,5%, і на 1 студзеня 2012 года склала 9 мільёнаў 465 тысяч чалавек. Краіна згубіла больш за пямільёна жыхароў.

**С. Горкі.**

ТЭРЫТОРЫЯ ДАБРА

# АБ'ЯДНАЛІСЯ НА НІВЕ МІЛАСЭРДНАСЦІ

**Валанцёрскі рух на Шуміліншчыне даказаў сваю дзеяздольнасць сумеснымі праектамі. У найбольш удалы з іх –"Міласэрднасць" уключыліся паўтара дзесятка чалавек з вёскі Мікалаёва. З пачатку сёлетняй восені распачаўся яшчэ адзін сумесны праект раённага аддзялення Чырвонага Крыжа і таварыства інвалідаў "Напоўнім сэрцы любоўю" для дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.**

Распрацаваны праект зараз рэалізуюць раённая арганізацыя Беларускага таварыства інвалідаў і Дом рамёстваў. Таксама плануецца аказваць гуманітарную дапамогу дзецям са шматдзетных, малазабяспечаных і нехадзейных сем'яў. Многія ўжо атрымалі прадуктовыя наборы, пісьмовыя прыналежнасці. Новая форма работы ў тым, што ў праекце ўдзельнічаюць і работнікі культуры. Падчас правядзення мерапрыемстваў дзецям прапануецца выбраць у Доме рамёстваў занятак, які прыйшоўся ім даспадобы. А гэта любімыя захапленні: вязанне, саломапляценне, лялечны тэатр. Насамрэч, для кожнага дзіцяці існуе індывідуальны падыход. Хворыя дзеці маюць магчымасць прымаць удзел у гульнявых праграмах, для іх ставяць спектаклі, запрашаюць на салодкія сталы. Сумесная акцыя "Напоўнім сэрцы любоўю" скіравана на падрыхтоўку дзяцей да дарослага жыцця, каб ім было лягчэй адаптавацца ў калектыве. Такія дабрачынныя валанцёрскія акцыі з'яўляюцца адначасова і забаўляльнымі, і прыносяць пэўную практычную карысць: пашыраюць кругагляд, кожны раз адкрываюць нешта новае, знаёмяць з цікавымі людзьмі.

У вёсцы Мікалаёва працягваецца міні-праект Чырвонага Крыжа "Міласэрднасць". Тут праводзяцца акцыі, якія аб'ядноўваюць пажылых людзей. Два гады таму працу пачыналі ўсяго пяць чалавек, цяпер валанцёрская суполка налічае пятнаццаць жыхароў з навакольных вёсак. У супольцы – людзі розных узростаў, ёсць і школьнікі. Члены арганізацыі, валанцёры і ўсе неабыякавыя людзі стараюцца аказаць дапамогу ўсім, каму яна неабходна, і для каго кропля чалавечага цяпла можа стаць акіянам надзеі. Не застаюцца без увагі і адзінокія, пажылыя людзі, пра якіх няма каму паклапаціцца ці проста выслухаць і паспачуваць, людзі з абмежаванымі магчымасцямі, шматдзетныя сем'і і ўсе тыя, хто мае патрэбу ў дапамозе.

У памяшканні Мікалаеўскага сельвыканкама прайшоў "круглы стол" па праекце, у рабоце якога прынялі ўдзел прадстаўнік райвыканкама Анатоль Зайцаў, начальнік аддзела адукацыі Пётр Спірыдонаў, старшыня раённай арганізацыі Чырвонага Крыжа Валянціна Чыжыкава, мясцовыя актывісты. Спадарыня Чыжыкава паведаміла, што за час рэалізацыі праекта суполка пабагацела на бензапілу, электракасу, электронны танометр і чайны сервіз. Актывісты-чырвонакрыжаўцы выступілі з прапановай, каб разам у Мікалаёве пабудаваць нармальную канцэртную пляцоўку з крытай сцэнай і дзіцячую спартыўную пляцоўку.

Безумоўна, праект будзе падоўжаны і ў наступным годзе. І вельмі прыемна, што на Шуміліншчыне ёсць актывісты, якія займаюцца грамадскай дзейнасцю, шчодра дзеляцца дабрынёй са знаёмымі і незнаёмымі людзьмі. Жыццё чалавека мае каштоўнасць да той пары, пакуль ён можа дапамагаць іншым. Ёсць надзея, што ніва міласэрднасці не застанецца без руплівцаў.

**С. Горкі.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# КДБ СУПРАЦЬ СЛЕСАРА

НЕШТА НЯЛАДНАЕ ТВОРЫЦЦА Ў АПЛОЦЕ СТАБІЛЬНАСЦІ. НЕ ПАСПЕЕ БЕЛАРУСЬ АЧОМАЦЦА АД АДНОЙ РЭЗАНАНСНАЙ СПРАВЫ З ВЫБУХАМІ, ТЭРАРЫЗМАМ ДЫ ІНШЫМІ ІНШАРОДНЫМІ ЭЛЕМЕНТАМІ, ЯК З'ЯЎЛЯЮЦЦА НОВЫЯ НАГОДЫ ЗАСУМНЯВАЦЦА Ў КРЫШТАЛЬНАСЦІ І МІРНАСЦІ БЕЛАРУСКАГА ЦУДА.

Гэтым разам КДБ выкрыў слесара-шпіёна, калі той закладаў «сакрэт» для замежнай разведкі. Пра характарыстыкі схованкі нічога не паведамляецца. «Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Андрэя Гайдукова, які займаўся паводле задання замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару», — паведамілі БелаПАН у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ. «Згаданы грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка са звесткамі, што цікавяць замежныя спецслужбы», — сказаў Аляксандр Антановіч.

У дачыненні да Гайдукова распачата справа на падставе ч. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці, пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі згодна з часткай 1), «праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, скіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці». Затрыманы змешчаны ў СІЗА КДБ. 22-гадовы Андрэй Гайдукоў працуе аператарам на наваполацкім «Нафтане». Багатая на дыверсантаў розных колераў Віцебская вобласць, што і казаць... Разам з Гайдуковым у той жа дзень затрымалі ў Полацку актывіста БХД Ілью Багданава. Аднак Багданаў хутка быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе, з яго ўзятая падпіска аб неразгалошванні таямніцы следства.

Слесар Гайдукоў удзельнічае ў дасюль малавядомым Саюзе маладых інтэлектуалаў і з'яўляецца першым намеснікам старшыні. Падчас перадвыбарчай кампаніі Андрэй Гайдукоў і Ілля Багданаў былі даверанымі асобамі былога кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Аляксея Філімонава. «Гэта поўная бязглуздзіца, якія дзяржтаямніцы можа ведаць або даведацца звычайны працоўны чалавек?! — пракаментаваў затрыманне Гайдукова для сайта «Хімік» экскандыдат. — Ён мог сустракацца з замежнымі грамадзянамі па пытаннях стварэння моладзевай арганізацыі, але гэта патрабаванні нашага заканадаўства, што павінны быць замежныя заснавальнікі». Між іншым, знаёмыя Гайдукова сцвярджаюць, што англійскай мовы ён не ведаў.

Факт выкрытай шпіёнскай дзейнасці простага слесара выклікае мноства пытанняў і кпінаў. Асабліва цікава гэта глядзіцца на фоне апошніх падзей, звязаных са структурамі спецслужбаў. 11 лістапада каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці здарыўся выбух самаробнай прылады, распачата крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 КК (асабліва злоснае хуліганства).

Выбух у Віцебску адбыўся праз два дні пасля адстаўкі старшыні КДБ Вадзіма Зайцава (ён адхілены ад пасады 9 лістапада рашэннем кіраўніка дзяржавы), а таксама напярэдадні ўступлення ў сілу змяненняў і дапаўненняў у законы аб барацьбе з тэрарызмам, аб супрацьдзеянні экстрэмізму і ў некаторыя артыкулы Крымінальнага кодэкса (яны ўступілі ў сілу 12 лістапада). Аб рашэнні Лукашэнкі пасля нарады ў кіраўніка дзяржавы расказаў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Леанід Мальцаў. Ён адзначыў, што ў сваіх выступах генеральны пракурор і старшыня Следчага камітэта паставілі шэраг пытанняў. У прыватнасці, яны тычыліся апошніх падзей, звязаных з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. «Усім вядома пра самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака. Ёсць і шэраг іншых пытанняў, якія патрабуюць уважлівага расследавання», — заявіў высокапастаўлены чыноўнік.




Шпіёна Гадукова затрымалі 8 лістапада. Выглядае на тое, што ў Беларусі завяліся чарговыя ворагі з касты «электрыкаў-слесараў», якія спяць і бачаць, як бы дэстабілізаваць абстаноўку (знаёмая фармулёўка з гучнай справы расстраляных за арганізацыю выбухаў у сталіцы на Дзень незалежнасці і ў мінскім метро Канавалава і Кавалёва). Намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) Алег Гайдукевіч, былы начальнік упраўлення ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна Мінска, паспеў зрабіць заяву для прэсы акурат з аналагічнымі словамі. «Гэта спроба дэстабілізаваць абстаноўку ў Рэспубліцы Беларусь, ніякіх жартаў і дробязяў мы тут не бачым», — падкрэсліў ён.

Пра супрацьстаянне, саперніцтва сілавых структур Беларусі вядома даўно. Як вынікае са слоў Мальцава, у гэтай сітуацыі лік на карысць Следчага камітэта — кіраўнік КДБ развітаўся са сваёй пасадаю. Верагодна, аперацыя суперзахопу шпіёна планавалася, каб паказаць, каму трэба, дзеяздольнасць КДБ, але было позна. Відавочна, своечасова прагучалі і выбухі каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці, а перад гэтым з'явілася інфармацыя пра выбухі каля дзяржаўнай мяжы і на тэрыторыі літоўскага пасольства. Не краіна, а логава змовы і тэрарыстаў. Сумна, што крайнімі ў высокіх разборках становяцца грамадзяне, палітычныя апаненты (у выпадках надзвычайных сітуацый на допыты традыцыйна цягаюць прадстаўнікоў апазіцыі), а для некага гэта ўвогуле заканчваецца трагічным фіналам. Між іншым, хутка Новы год, то на тле апошніх падзей можна чакаць узмацнення ўвагі міліцыі, а таксама і ўзроўню трывогі жыхароў краіны. Навіны пра выбухі і бітвы за ўраджай зусім з аднаго шэрагу, і першыя ніяк не граюць на пазітыўны імідж уладаў.

**Вольга Хвоін, "Новы час".**

НЕ СМЯРОТНАМУ ПАКАРАННЮ!

# ПРАВА НА ЖЫЦЬЦЁ ЎЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА БЫЛО ПАРУШАНА

КАМІТЭТ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ААН ПРЫЗНАЎ, ШТО АДНОСНА ЎЛАДЗІСЛАВА КАВАЛЁВА, ЯКОГА ПАКАРАЛІ СЬМЕРЦЮ ЗА ВЫБУХ У МЕНСКІМ МЭТРО, БЫЎ ПАРУШАНЫ МІЖНАРОДНЫ ПАКТ АБ ГРАМАДЗЯНСКІХ І ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ.

Такое рашэньне камітэт ААН прыняў 14 лістапада, а 22 лістапада яго атрымалі і прадставілі журналістам маці Ўладзіслава Любоў Кавалёва і праваабаронцы Раман Кісьляк і Людміла Гразнова.

Сваё заключэньне па скарзе Любові Кавалёвай і сястры Ўладзіслава — Тацьцяны Козыр далі 18 экспэртаў з розных краін, што ўваходзяць у ААН. Яны адзначаюць канкрэтныя парушэньні, дапушчаныя падчас правядзеньня сьледзтва, суду і выкананьня сьмяротнага прысуду. Галоўнае, што напісана ў гэтым дакумэнце: «Права на жыцьцё Ўладзіслава Кавалёва было парушана».

Юрыст Раман Кісьляк назваў журналістам парушэньні, якія прызналі міжнародныя экспэрты: «Па-першае, адносна Ўладзіслава Кавалёва ўжывалася фізычная сіла, недазволеныя мэтады. Яго прымусілі даць паказаньні супраць самога сябе. Ён пра гэта заявіў падчас судовага паседжаньня. І гэта парушэньне як забароны катаваньня і жорсткага абыходжаньня, так і забароны прымусу даваць паказаньні адносна асабіста сябе».

Экспэрты ААН пішуць і пра іншыя парушэньні. Напрыклад, іх зьдзіўляе, што амаль усе хадайніцтвы пракуратуры судзьдзі задаволілі, а патрабаваньні адвакатаў — амаль усе адхілілі. І гэта ставіць пад сумнеў, на думку экспэртаў, незалежнасьць і непрадузятасьць суду.

Маці Ўладзіслава Кавалёва заявіла журналістам: дакумэнты з Жэнэвы даюць ёй падставу сьцьвярджаць, што сапраўдныя злачынцы, якія зрабілі выбух у менскім мэтро, да гэтага часу не названыя. «Улады не спрабуюць знайсьці сапраўдных выканаўцаў гэтага страшнага тэракту», — сказала яна:

«Таму мы і сабраліся тут, каб расказаць людзям пра тую сыстэму, якая ў нас цяпер існуе, пра тое „правасудзьдзе", калі кагосьці проста прызначаюць на ролю вінаватых. І пра тое, як праходзіць сьледзтва і суд і як выносяцца такія страшныя прысуды. На жаль, сьмяротнае пакараньне адбылося. І нават такое рашэньне міжнародных экспэртаў ня верне мне сына. Але я хачу рэабілітаваць сына ў вачах людзей».

Праваабаронца Людміла Гразнова, якая назірала за працэсам па выбуху ў менскім мэтро, сказала «Свабодзе», што яна і тады ня бачыла ў віцебскіх юнаках тэрарыстаў. А рашэньне камітэту ААН толькі пацьвярджае гэтую веру: «Гэтыя дакумэнты праходзяць вельмі дакладную экспэртызу вельмі адукаваных спэцыялістаў. І яны, канечне, робяць дакладныя высновы. Таму рашэньне ААН — яшчэ адзін важкі дакумэнт на карысьць таго, што той суд ня быў абгрунтаваны, справядлівы, а тыя вынікі, якія ён паказаў, не зьяўляюцца рэальнымі. І няхай грамадзтва глядзіць на ўсё гэта і робіць свае высновы».

Што тычыцца другога расстралянага па гэтай справе — Дзьмітрыя Канавалава, дык яго родныя скаргаў у ААН не падавалі, і таму разглядалася толькі справа Ўладзіслава Кавалёва.

**Уладзімер Глод.**

НАША ЎЛАДА

# ГОРКІ РАЗВАЛЬВАЮЦЦА ПАСЬЛЯ ДАЖЫНАК

У СТАЛІЦЫ СЁЛЕТНІХ «ДАЖЫНАК» — РАЙЦЭНТРЫ ГОРКІ, ШТО НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ, — ЗАЧЫНІЛІ НА РАМОНТ ТОЛЬКІ ШТО ПАБУДАВАНЫ ГАЛОЎНЫ АБ'ЕКТ ФЭСТЫВАЛЮ: КУЛЬТУРНА-ЗАБАЎЛЯЛЬНЫ ЦЭНТАР.

Два месяцы таму зь яго сцэны адкрываў «Дажынкі» Аляксандар Лукашэнка. Цяпер памяшканьні цэнтру залівае вада. Будаўнічыя хібы спрабуюць выправіць у аўральным парадку.

Пляцоўка перад амфітэатрам перакапаная. У траншэі будаўнікі ізалююць плёнкай перакрыцьце падземных памяшканьняў амфітэатру. Паглядзець, што там робіцца, не ўдалося. Здалёк відаць, што туды ўносяць матэрыялы для ізаляцыі і аздабленьня. Ля траншэі, як і два з паловай месяцы таму, зноў працуе цяжкая будаўнічая тэхніка. Будаўнікі на просьбу расказаць, чым яны займаюцца, адмахваюцца і ківаюць на начальства. Тое таксама негаваркое. Адзін з начальнікаў выказаў незадавальненьне крытычным сюжэтам на канале СТВ. У сюжэце начальнік аддзелу архітэктуры й будаўніцтва райвыканкаму Віктар Бяляеў апавёў пра праблемы амфітэатру: «Тэрміны нарматыўныя ўзьвядзеньня аб'екта — 27 месяцаў, а яго пабудавалі за дзевяць. Усе моманты тады немагчыма было ўлічыць падчас будаўніцтва, дый праектаваньня. Цяпер вось выявілася працечка. Вядуцца працы па будаўніцтве дадатковага дрэнажу, які прадухіліць трапленьне вады ў ніжэйшыя паверхі будынка».

Тое, пра што кажа спадар Бяляеў, прадбачыла задоўга да адкрыцьця культурна-забаўляльнага цэнтру інжынэр-гідратэхнік Вольга Савельева. Яна зьвярталася да чыноўнікаў і даводзіла, што тэхналёгіі ўзьвядзеньня аб'екта парушаюцца. Да яе парадаў не прыслухоўваліся. Спадарыня Савельева і цяпер выказваецца пэсымістычна адносна ўстойлівасьці самога цэнтру і навакольных будынкаў: «Нельга абціскаць будаўніцтва толькі грашовымі пытаньнямі, то бок людзі хапанулі грошы — і цяпер наагул будзем толькі здымаць плады ад гэтага. Цяпер ужо мала што можна зьмяніць. Цяпер яны будуць перарабляць да сканчэньня веку. Цяпер можа і дом паплыць, які побач. Могуць пачацца пасоўваньні фундамэнта».

Студэнты сельгасакадэміі перад адкрыцьцём цэнтру бачылі, наколькі ён гатовы. Гаворыць адна са студэнтак: «Калі мы мылі сцэну, ВІП-лёжу, мы тады спускаліся ў памяшканьні, дзе цяпер боўлінг і меліся быць кавярні. Ужо тады, на момант адкрыцьця, ужо стаяла вада. Было зразумела, што да тэрміну яны не пасьпяваюць. Аўрал прывёў да гэтага. Ні вада тады не была падключаная, ні электрычнасьць».

Рамонт амфітэатру ўжо пасьпеў стаць часткай студэнцкага фальклёру і кпінаў моладзі. Гаворыць адзін са студэнтаў:

«Многія з гэтага цяпер жартуюць. Ёсьць у клюбе вясёлых і знаходлівых хлопцы, развіваюць гэтую тэму. Хутка будзе фэстываль КВЗ, там, пэўна, будуць жарты наконт амфітэатру».

Карэспандэнт: «А з чаго будзе жартаваць?»

Студэнт: «Будзем гадаць, сплыве амфітэатар ці не».

У падрыхтоўку Горак да «Дажынак» былі ўкладзеныя мільярды рублёў зь дзяржаўнага бюджэту. Чыноўнікі з гонарам рапартавалі, што падрыхтавалі райцэнтар за самыя сьціслыя тэрміны. Напрыклад, мясцовую лядовую арэну ўзьвялі ўтрая хутчэй за нарматыў. Цяпер гэтая аўральнасьць становіцца апраўданьнем вялікіх недаробкаў.

**"Радыё Свабода".**

НАША ЖЫЦЦЁ

# БУДЗЕ ЧАРГОВАЕ ПАДВЫШЭННЕ КОШТАЎ

АКЦЫЗЫ, ЯКІЯ З'ЯЎЛЯЮЦЦА АДНОЙ З ГАЛОЎНЫХ КРЫНІЦ НАПАЎНЕННЯ БЮДЖЭТУ ГРАШЫМА, З НОВАГА ГОДА ПАВЫШАЮЦЦА. РОСТ АКЦЫЗУ ВЫТВОРЦЫ БУДУЦЬ ПЕРАКЛАДАЦЬ НА СПАЖЫЎЦОЎ. АДПАВЕДНА, КОШТЫ Ў НАДЫХОДЗЯЧЫМ ГОДЗЕ ВЫРАСТУЦЬ. ЯКІЯ ТАВАРЫ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ БУДУЦЬ ДАРАЖЭЦЬ? КОЛЬКІ АД ПАВЫШЭННЯ АКЦЫЗАЎ АТРЫМАЕ КАЗНА? АДКАЗЫ НА ГЭТЫЯ І ІНШЫЯ ПЫТАННІ ВЫРАШЫЛА ЗНАЙСЦІ ІНТЭРНЭТ-ГАЗЕТА NAVINY.BY.

### Аб карысці гарэлкі для бюджэту

3 студзеня 2013 г. акцызы істотна вырастуць. Згодна з унесенымі змяненнямі ў Падатковы кодэкс, больш за ўсё павысяцца стаўкі акцызаў на цыгарэты. Так, стаўка акцызу на цыгарэты нізкага цэнавага сегмента вырасце з 1 студзеня адразу ў 2,1 разы да 60,2 тыс. рублёў за тысячу штук. Акцыз на цыгарэты сярэдняга коштавага сегмента павялічыцца з новага года амаль на 70% да 140,6 тыс. рублёў за 1000 штук. Нарэшце, для цыгарэт вышэйшага цэнавага сегмента акцыз падымецца прыкладна на 55%.

Значна вырастуць з новага года і акцызы на алкагольную прадукцыю. Напрыклад, стаўка акцыза на алкагольныя напоі з аб'ёмнай доляй этылавага спірту 7% і больш (сюды, у прыватнасці, адносіцца гарэлка) павялічыцца амаль на 35% у параўнанні з дзеючым узроўнем да 104,5 тыс. рублёў за літр бязводнага спірту ў гатовай прадукцыі.

Істотна ўзрасце таксама стаўка акцызаў на слабаалкагольныя напоі (рост акцызу ў залежнасці ад назвы прадукцыі складзе ад 34,5% да 46,3%). Заканадавец «пашкадаваў» толькі вытворцаў піва - з 1 студзеня акцыз на ячменны напой вырасце на 12,4%.

Павышэнне акцызаў закране ў будучым годзе і кашалькі аўтааматараў. На бензіны і дызельнае паліва стаўкі акцызаў вырастуць на 20%.

Для беларускага бюджэту акцызы з'яўляюцца адным з асноўных крыніц яго напаўнення. Паводле ацэнак Мінфіна, у 2013 годзе амаль 9% даходаў кансалідаванага бюджэту будзе сфарміравана за кошт гэтых ўскосных падаткаў, што ўключаюцца ў адпускную цану прадукцыі.

У 2013 годзе Мінфін плануе атрымаць у кансалідаваны бюджэт за кошт акцызаў больш 16,4 трлн.рублёў. У параўнанні з 2012 годам велічыня «акцызных» паступленняў у казну вырасце на 45%. Істотны рост даходаў чакаецца за кошт таго, што ў будучым годзе вырастуць згаданыя вышэй акцызныя зборы.

У матэрыялах да бюджэту на 2013 год, якія мае інтэрнэт-газета Naviny.by, прыводзяцца звесткі пра тое, якія менавіта акцызы гуляюць ключавую ролю ў фарміраванні казённых даходаў. Больш за ўсё акцызаў дзяржава плануе сабраць ад продажаў гарэлкі. Чакаецца, што каля 5 трлн. рублёў у казну паступіць за кошт гарэлачнага акцызу. Больш за 4,3 трлн. рублёў, паводле ацэнак Мінфіна, прынясуць у бюджэт паступлення ад збору акцызаў на аўтамабільнае паліва. Ніжэй інтэрнэт-газета Naviny.by прыводзіць памер чаканых паступленняў у бюджэт ад падакцызных тавараў.

| Размер поступления основных акцизов в бюджет в 2013 г (в млрд. рублей) | |
|---|---|
| наименование товара | сумма акциза |
| водка | 5076,1 |
| ликеро-водочные изделия | 292,7 |
| вина плодовые | 1078,4 |
| пиво (кроме импортированного) | 1106,5 |
| табачные изделия (кроме импортированных) | 3290,4 |
| автомобильное топливо | 4366,8 |
| подакцизная импортированная продукция | 654,5 |

### Якога росту коштаў чакаць?

Рост акцызаў немінуча прывядзе да павышэння коштаў. Больш за ўсё могуць падаражэць тытунёвыя вырабы.

У кошце пачкі цыгарэт акцыз займае каля 20%. Адпаведна, з улікам таго, што акцыз на цыгарэты нізкага цэнавага сегмента падымецца на 109 адсоткаў, можна чакаць, што кошт пачкі вырасце больш чым на 20%. У выпадку з цыгарэтамі сярэдняга коштавага сегмента гаворка можа ісці аб павышэнні коштаў на 15%. Тытунёвыя вырабы з высокага цэнавага сегмента падаражэюць прыкладна на 10%.

«Існуюць розныя варыянты перакладання росту акцызаў на спажыўца. Першы - павелічэнне акцызу цалкам пераносіцца на плечы спажыўца, другі варыянт - частковая кампенсуецца за кошт прыбытку прадпрыемстваў», - распавёў Naviny.by прадстаўнік тытунёвай галіны.

Але, хутчэй за ўсё, дадаў ён, «усё вытворцы тытунёвай прадукцыі будуць імкнуцца да поўнага перакладанне акцызу на спажыўца, хоць гэты працэс і можа быць паступовым».

Алкагольныя напоі ў новым годзе таксама падаражэюць. У кошту бутэлькі гарэлкі, па дадзеных вытворцаў, акцыз займае прыкладна палову. Адпаведна, павышэнне акцыза на 34,5% можа прывесці да росту коштаў на 20%.

Павелічэнне акцызу, нагадаем, аўтаматычна вядзе не толькі да павышэння адпускных цэн вытворцаў, але і да росту ПДВ, а таксама гандлёвай надбаўкі. Усё гэта, у канчатковым рахунку, адбіваецца на ўзроўні цэн, якія мы бачым у крамах.

Што тычыцца ўплыву акцызаў на кошт такога папулярнага напою як піва, то тут сітуацыя наступная. У 2012 годзе піўны акцыз пастаянна (кожны квартал) павышаўся і, як следства, рост коштаў на ячменны напой апярэджваў інфляцыю. Згодна з сярэднім цэнах, якія прыводзіць Белстат, за студзень-кастрычнік піва падаражэла на 54,7% (пры інфляцыі за гэты перыяд 18,1%).

Усведамляючы, мабыць, што ў 2012 годзе з павышэннем ўскоснага падатку дзяржава перагнулі палку, заканадаўцы «пашкадавалі» піваварау, падвысіўшы піўной акцыз з 1 студзеня толькі на 12,4%.

Генеральны дырэктар ААТ «Піўзавод Аліварыя» Міхаіл Чэчанеў паведаміў Naviny.by, што ў кошце бутэлькі піва акцыз сёння займае каля 18-20%. Адпаведна, калі сыравіна не падаражэе (вытворцам пакуль невядома, якімі будуць цэны на солад і ячмень), падстаў для значнага росту коштаў на піва ў пачатку 2013 года не будзе.

Яшчэ адна адчувальная для спажыўцоў пазіцыя, якая ў будучым годзе ў сілу павышэння акцызаў падаражэе, - аўтамабільнае паліва. У кошту (адпускной цане) тоны бензіну акцыз ў цяперашні час складае каля 15%. Павелічэнне ўскоснага падатку на 20% павінна прывесці да росту адпускной цаны, ПДВ і гандлёвай надбаўкі.

Аднак, з улікам таго, што кошты на бензіны і дызпаліва ў Беларусі рэгулюецца дзяржавай, менавіта яно вызначыць, якая цана на гэтую прадукцыю будзе на аўтазапраўках. У 2012 годзе, нагадаем, кошты на паліва павышаліся некалькі разоў у сярэднім на 5%. Хутчэй за ўсё, нешта падобнае нас чакае і ў пачатку 2013-га.

**Дзмітрый ЗАЯЦ, naviny.by.**

ПРАБЛЕМЫ ІНВЕСТЫЦЫЙ

# БЕЛАРУСЬ АДПУЖВАЕ ІНВЕСТАРАЎ

УДЗЕЛЬНІКІ І ЭКСПЕРТЫ II МІЖНАРОДНАГА ФОРУМУ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА, ЯКІ ПРАХОДЗІЎ У МІНСКУ, АДНАДУШНА СЫШЛІСЯ Ў МЕРКАВАННІ, ШТО Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ПРЫВАТЫЗАЦЫІ. ТАКСАМА СПЕЦЫЯЛІСТЫ ГАЛІНЫ АДЗНАЧЫЛІ, ШТО ПРЫКЛАДЫ НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫІ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ - АДМОЎНЫ СІГНАЛ ДЛЯ ІНВЕСТАРАЎ, ПІША БЕЛАПАН.

Кіраўнік дырэктар кампаніі Lebortovo Capital Partners Сяргей Левін, у прыватнасці, заявіў: «Прыватызацыя ў краіне наогул не вядзецца. Калі раней урад спрабаваў дыскутаваць з прадстаўнікамі бізнесу аб прыватызацыі, то зараз нават дыскусій не вядзецца ».

«Што ж тычыцца прыватызацыі такіх буйных дзяржпрадпрыемстваў, як «Беларуськалій», МАЗ, МТЗ і іншых, якія з'яўляюцца «набыткам рэспублікі», - гэта «асобнае пытанне», дадаў Левін.

«У нас ёсць буйныя ўласнікі нерухомасці, напрыклад Мінгарвыканкам, Упраўленне справамі прэзідэнта. Можа, мы не будзем прыватызаваць флагманы, а пачнем з простых аб'ектаў нерухомасці, простых прыватных «, - прапанаваў бізнесмен.

У сваю чаргу старшыня Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі (БНПА) Аляксандр Швец выказаў меркаванне, што «адсутнасць спісаў прыватызацыі яшчэ больш пагоршыла сітуацыю». Гаворка ідзе пра трохгадовыя планы прыватызацыі, які былі адменены рашэннем прэзідэнта. Цяпер прыватызаваць можна любое прадпрыемства пры пэўных умовах і правілах ўзгаднення з дзяржаўнымі органамі. «У той сітуацыі, якая была раней, наяўнасць плана пасоўвала ўлады рабіць пэўныя крокі па прыватызацыі. Яго адсутнасць проста звяло да нуля гэтую працу », - заявіў Швец.

«Хто носьбіт гэтай ідэі па прыватызацыі? Хто-небудзь з урада разумее, для чаго патрэбна прыватызацыя? Ці разумеюць гэта службовыя асобы, якія курыруюць прадпрыемства або галіны? »- задаўся пытаннямі кіраўнік БНПА. На яго думку, у чыноўнікаў «няма разумення, для чаго патрэбна прыватызацыя ў завершаным сэнсе, ці яно слабое».

Швец пагадзіўся з Левіным з нагоды прыватызацыі буйных прадпрыемстваў, якія з'яўляюцца базавымі для галін. «Ёсць маса малых прадпрыемстваў, ці проста маёмасць, якія таксама чамусьці не прыватызуюцца», - адзначыў ён. Чыноўнікі, дадаў Швец, пралічваюць выгаду ад самой продажу, але не ўлічваюць выгод, якія зможа даць дзяржаве прыватызаванае прадпрыемства праз 5-10 гадоў працы.

У ходзе дыскусіі спікеры таксама закранулі пытанне аб наступствах нацыяналізацыі такіх прадпрыемстваў, як «Камунарка» і «Спартак».

«Я лічу, што прыватызацыя - гэта добра, таму што прыватныя прадпрыемствы больш эфектыўныя, - падкрэсліў старшыня праўлення ЗАТ» МТБанк «Андрэй Жышкевіч. - Але ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра прыклады прыватызацыі, а пра рэпрыватызацыі або нацыяналізацыі ». Гэта, па словах Жышкевіч, «стварае магутны адмоўны сігнал будучым інвестарам».

«Дапусцім, праз паўгода пачнецца масавая прыватызацыя, але інвестарам трэба разумець, што ў Беларусі можа здарыцца і зваротны працэс. І гэта будзе доўга атручваць жаданне ўдзельнічаць у прыватызацыі. Гэта больш сур'ёзная праблема, чым запаволенне тэмпаў прыватызацыі », - адзначыў банкір.

Д а р а д ц а - п а с л а н н і к, намеснік кіраўніка пасольства Германіі ў Беларусі Піцер Дэтмар падкрэсліў, што інфармацыя аб сітуацыі з «Коммунаркой» і «Спартаком» распаўсюдзілася і за межы Беларусі. «Інвестары, якія маглі б быць зацікаўлены ў інвесціраванні ў Беларусь, атрымалі негатыўны сігнал. Можа быць, ёсць добрыя прычыны па нацыяналізацыі «Камунаркі», я ў гэтым не эксперт. Але сігнал для знешняга свету - вельмі адмоўны », - заявіў дыпламат.

Ён нагадаў аб тым, што ў гісторыі беларускай эканомікі існавала права «залатой акцыі», якое затым было адменена. «Мы цяпер маем тое ж самае, але ва ўтоенай форме. І такое становішча цяжка растлумачыць замежным інвестарам, паколькі іх адпужвае магчымасць страціць свае інвестыцыі », - сказаў Дэтмар. «Прыватызацыя павінна праводзіцца як належыць, у выразных прававых рамках», - заявіў прадстаўнік амбасады.

**Марына НОСАВА.**

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

# ЕЎРАСАЮЗ ПАЧЫНАЕ ДРУГІ ЭТАП ПЕРАМОВАЎ З БЕЛАРУССЮ

КІРАЎНІК ПРАДСТАЎНІЦТВА ЕЎРАСАЮЗА Ў БЕЛАРУСІ МАЙРА МОРА ЗАЯВІЛА, ШТО "ЧАКАЕЦЦА ДРУГІ РАЎНД ТЭХНІЧНАГА ДЫЯЛОГА ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЕЎРАПЕЙСКІМ САЮЗАМ, ЯКІ АДБУДЗЕЦЦА НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ Ў БРУСЕЛІ".

Заява была зроблена ў Мінску падчас міжнароднай экспертнай канферэнцыі «Беларусь на скрыжаванні інтэграцыі: адносіны з ЕС у сітуацыі фармавання Еўразійскага саюза», піша «Народная Воля».

Пры гэтым еўрапейскі дыпламат адзначыла, што перамовы ідуць складана: «Адносіны Беларусі і ЕС калісьці былі ў значна лепшай форме, чым цяпер».

Па словах Майры Моры, галоўнае патрабаванне Еўрасаюза – «вызваленне і аднаўленне ў правах палітычных зняволеных».

Прадстаўнік Еўрасаюза таксама паведаміла, што беларускія ўлады самі абмяжоўваюць кантакты з Еўрасаюзам. Майра Мора нагадала аб праграме Еўрасаюза «Еўрапейскім дыялогу мадэрнізацыі для Беларусі», ад удзелу у якой адмовіліся беларускія чыноўнікі.

Нагадаем, што раней у гэтым годзе, 2 сакавіка, на саміце ў Бруселі лідары краін Еўрасаюза заклікалі Раду ЕС прыняць далейшыя меры ў дачыненні да Беларусі. Пра гэта паведаміла Мая Качыянчыч, прэс-сакратар вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах Кэтрын Эштан. Прэс-сакратар заявіла, што лідары Еўрасаюза выказваюць занепакоенасць пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі. «Яны вітаюць рашэнне Савета ЕС пашырыць спіс асобаў, адказных за рэпрэсіі ў дачыненні да беларускіх грамадзян і апазіцыі, а таксама за парушэнні асноўных правоў чалавека», – адзначыла Качыянчыч.

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.11.2012 у 18.40.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.